


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

28 лістапада 2003 года

№ 48 (449)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года





## Навіны рэгіёну



### Тэрарыст-жартаўнік

АШМЯНЫ. У нядзелю мясцовы тэрарыст-жартаўнік «замініраваў» раённае аддзяленне міліцыі. Факт не пацвердзіўся, а вось хулігана затрымалі. За маладым хлопцам цягнецца шэраг злачынстваў і падпалаў.

Ірына РАБУШКА.

### Падпісаны праект

СМАРГОНЬ. Праект на 5 тысяч долараў падпісалі прадстаўнікі Смаргонскага БелТіЗа і Альянс Партнёрства Каунтэрпарт прадстаўніцтва ЗША у Беларусі. Грошы размеркаваны на 2 пральныя машыны, тканіну для пасцельнай бялізны, якую перададуць інвалідам і адзінокім. А таксама — на 15 танометраў для вымярэння ціску адзінокім цяжка хворым смаргонцам.

Ірына РАБУШКА

### Новая камендатура

АСТРАВЕЦ. У аўторак у Гудагаі адкрылася новая камендатура. Яе пабудавалі за сродкі саюзнага бюджэту ў комплексе з двума 8-кватэрнымі дамамі для супрацоўнікаў. Тыповы праект дазволіў упісаць у гэты інтэр'ер і дзіцячыя пляцоўкі.

Ірына РАБУШКА.

### Прэстыжны конкурс

МАЛАДЗЕЧНА. Рэспубліканскі конкурс метадычных і творчых работ выкладчыкаў дзіцячых музычных школ (ДМШ) і школ мастацтваў праходзіць 1 раз у 4 гады. 42 калектывы з Маладзечаншчыны, Валожыншчыны і Заслаўя змагаліся за выхад у абласны тур. Толькі 10 з іх павінны былі трапіць на «вобласць». Але калектывы падрыхтаваліся настолькі прафесійна, што вызначылі 15 пераможцаў.

Ірына РАБУШКА.

### Яго зоркавы час

ВАЛОЖЫН. У мінулую пятніцу адсвяткаваў свой 70-гадовы юбілей жыхар вёскі Гінтаўшчына Яўген Зялкоўскі. Менавіта напярэдадні гэтай падзеі тыражом 299 асобнікаў выйшаў у свет зборнік яго вершаваных п'ес пад назвай "На хвалях радасці". Прадмову да яго напісаў паэт Алесь Пісарык.

Марына СЛІЖ.

### Вяртанне княства

ВІЛЕЙКА. "Спадчына нашых продкаў, якія жылі ў складзе Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) пяць стагоддзяў, несправядліва забытая", — лічаць актывісты гісторыка-культурнай установы "Полоніка-Літуаніка". Каб папулярызаваць гістарычны перыяд ВКЛ, яны правялі сустрэчы са школьнікамі Вілейкі, а таксама Нарочы, Астраўца, Крэва, Смаргоні і Маладзечна.

Віталь ПАЎЛОЎСКІ.

# Калі няма зарплаты

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду рабочыя сумеснага прадпрыемства закрытага акцыянернага таварыства (СП ЗАТ) "Скарпіён" адмовіліся заняць свае рабочыя месцы. Людзі, якім не плацяць заработную плату з верасня, баставалі.**

"На прадпрыемстве працую з 28 жніўня, — расказвае майстар Іван Жукоўскі. За гэты час грошы атрымліваў толькі раз. У верасні, як падачку, далі 100 тысяч рублёў. Вечарам не хочацца вяртацца дадому. Сорамна перад жонкай, дочкамі, а іх у мяне тры".

Не лепшым чынам адчуваюць сябе і іншыя члены калектыву. Людзі не ведаюць, як жыць, харчавацца, чым плаціць за кватэру. Удвая цяжэй тым, хто працуе на прадпрыемстве сем'ямі. Мусяць жыць у доўг **Дзмітрый** і **Святлана Рамановічы**, якія прывялі на "Скарпіён" і свайго сына, бацька і сын **Ірчыцы**, а таксама **Сяргей, Наташа** і **Андрэй Якшыны**. Гэты спіс можна было б папоўніць яшчэ дзесяткам прозвішчаў. Бо сярод тых, хто тут працуе, і маці-адзіночкі, якім ніхто не дасць на кавалак хлеба, і таты, што плацяць аліменты.

Недавер свайму кіраўніцтву яны выказваюць не першы раз. Своеасаблівую забастоўку праводзілі і ў кастрычніку. Пасля яе грошы выплацілі – па 60 тысяч рублёў на чалавека.

Начальнік вытворчасці **Анатоль Ляўковіч**, якога папрасілі патлумачыць сітуацыю, гаворыць: "Часы для нас насталі няпростыя. Арганізацыі, прадпрыемствы, не разлічваюцца са "Скарпіёнам", кіраўніцтва, у сваю чаргу, не можа выплаціць зарплату людзям. Поўнасцю з працуючымі разлічыліся толькі за жнівень. За верасень грошы выплацілі напалову.

Разумеем, што сітуацыя не з лепшых, кожны дзень цярэбім сваіх даўжнікоў, якія кормяць абяцанкамі нас, а мы, у сваю чаргу, працуючых. Спадзяёмся толькі на сваіх маскоўскіх кліентаў. Адгрузім ім апошнюю партыю вокнаў, адразу ж атрымаем грошы, а людзі – заработную плату".

"Вы думаеце, я сплю спакойна, — сказаў падчас тэлефоннай размовы дырэктар СП ЗАТ "Скарпіён" **Вячаслаў Рак**. – Таксама хвалююся, шукаю на зарплату грошы, выплаціць якую абяцаю да 1 снежня".

**Каментарый спецыяліста.**

Начальнік эканамічнага аддзела гарвыканкама Святлана Галубовіч гаворыць: "Дзейнасць і фінансавы стан гэтага прадпрыемства для нас – камерцыйная тайна. "Скарпіён" – прыватнае прадпрыемства, таму не прад'яўляе ў выканкам свае справаздачы. Адпаведна, мы не можам прасачыць за станам спраў на прадпрыемстве, у тым ліку і за выплатай заработнай платы. Выявіць гэта можна толькі па скарзе альбо тэлефонным званку. Пакуль да нас ніхто з працаўнікоў не звяртаўся.

Кіраўніцтва "Скарпіёна" мы абавязкова паклічам на камісію па зарплаце. Там і спытаем , чаму людзі за работу не атрымліваюць грошы. Прадпрыемства прыватнае, і тут ужо вінавата кіраўніцтва".

Марына СЛІЖ.
Ірына РАБУШКА.



Рабочыя спецыялізаванага прадпрыемства ЗАТ "Скарпіён", што ў Маладзечне, адмовіліся заняць свае рабочыя месцы. Ім надакучыла працаваць і не атрымліваць зарплату.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Прыгажосць без электрычнасці



У горадзе прайшоў адкрыты конкурс цырульніцкага майстэрства "Свет прыгажосці".

2-я старонка

### Бутэлькі – нарыхтоўшчыкам



Маладзечанская нарыхтоўчая кантора пачала прымаць пластыкавыя бутэлькі.

3-я старонка

### Цырк!Цырк?



Цырк – гэта, бадай, адзінае відовішча, якое падымае настрой людзям. А што стаіць за ўсмешкай цыркача?

6-я старонка

■ КОНКУРСЫ

# Прыгажосць — без электрычнасці

**МАЛАДЗЕЧНА. Ледзь не сарваўся 25 лістапада конкурс цырульніцкага майстэрства «Свет прыгажосці». У Палацы культуры, дзе ён праходзіў, не было электрычнасці.**

Да конкурсу рыхтаваліся загадзя. Работнікі палаца прадумалі не толькі заезд, рэгістрацыю удзельнікаў і конкурсную праграму, але і шоу для гледачоў. Аднак у гадзін 11, акурат, калі цырульнікі пачалі рэалізоўваць свае задумы, адбылося аварыйнае адключэнне і электрычнасць знікла ва ўсіх будынках ад Цэнтральнай плошчы да музвучылішча. Палац асвятлялі люстры, якія сілкаваліся ад сваёй акумулятарнай падстанцыі. Але электрафены не працавалі. Люстры гарэлі, галовы мадэляў, апрацаваныя сродкамі для ўкладкі, сохлі, арганізатары і цырульнікі нерваваліся, электрычнасці не было. Непакой удзельнікаў быў зразумелы: пасля нанясення спецыяльнага прэпарата цырульнік мае абмежаваную колькасць часу для ўкладкі. Калі валасы высахнуць, зрабіць іншую прычоску амаль немагчыма.

Але хвілін праз 20 загучала музыка, запрацаваў мікрафон, загудзелі фены, і далей свята ішло па сцэнарыі.

Усе працавалі на адной пляцоўцы, таму старт быў раздзельны. Гледачы назіралі з-за агароджы са стужачак. Па камандзе «стоп» цырульнікі спыняліся, за справу бралася журы. Работы ацэньваліся ў пяці намінацыях. Вылучыць найлепшага было пад сілу толькі спецыялістам. Непрафесійныя вочы гледачоў бачылі амаль аднолькавыя стрыжкі і укладкі. Усе мадэлі ў намінацыі «кароткая мужчынская стрыжка» здаваліся ледзь не блізнятамі: цёмныя валасы, свае ці створаныя касметыкай бакенбарды.

Мадэль на конкурс кожны майстар падбірае сабе сам, бо вынік у многім залежыць ад яе, ад таго, як яна (ці ён) трымаецца.

Конкурс быў адкрыты, у ім ўдзельнічалі не толькі маладзечанцы, але і цырульнікі з Гродна, Мінска, Брэста. Мясцовым майстрам удалося перамагчы не ва ўсіх намінацыях. Сярод маладзечанцаў першыя месцы занялі Таццяна Русак з «Майстар плюс» (намінацыя «вячэрняя прычоска на доўгіх валасах»), Марына Шыбека з цырульні «Міраж» (намінацыя «салонная жаночая стрыжка з укладкай) і Кацярына Валюкевіч з «Архідэі» ў асноўнай намінацыі. Усіх прызёраў узнагароджвалі каштоўнымі падарункамі і дыпломамі, а пераможцаў яшчэ і кубкамі.

Таксама ацэньваліся работы ў намінацыях «пазногцевы сэрвіс» і “дэкаратыўная касметыка”. У першай журы адзначыла Галіну Чаеўскую з цырульні «Максімум», а ў другой заявак ад маладзечанцаў не было.

Свае работы дэманстравалі і фатографы.

**Святлана ЦІШКО.**



Пераможца леташняга конкурсу цырульніцкага майстэрства Яўген Батура на такім жа конкурсе сёлета заняў 3-е месца. Фота Святланы ЦІШКО.

## Рэпертуар Мінскага абласнога драматычнага тэатра на снежань

### Вячэрнія спектаклі

*3 серада 19.00* **“Сэкс па перапісцы”** (трагікамедыя ў 2-х дзеях) Лявон Вашко

*4 чацвер 19.00* **“Сільвія”** (меладрама-трагікамедыя пра каханне) А.Герні

*6 субота 17.00, 9 аўторак 19.00* **“Месье з рагамі, мадам з вусамі”** (дапаможнік для будучых раганосцаў у 2-х камедыях) Марсэль Берынье-Мерыньe А.Курбскі

*10 серада 19.00* **“Без мяне мяне жанілі”** (камедыя ў 2-х дзеях) Франц Ксавер Кроц

*11 чацвер 19.00* **“Нязваны госць”** (ну, ве-е-ельмі сур'ёзная камедыя) Святлана Бартохава

*12 пятніца 19.00* **“Камедыя”** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча) Уладзімір Рудаў

Мастацкі кіраўнік – Валерый Ласоўскі.

Тэл. для даведак: 5-24-17 – каса, 6-17-32 – выкладчык-арганізатар, 5-29-16 – намеснік дырэктара.

## Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек “Батлейка” на снежань 2003 года

7 нядзеля 12.00 Х.Гюнтэр. **“Насарог і Жырафа”** (лірычная казка)

14 нядзеля 12.00 П.Васючэнка. **“Страшнік Гам”** (музычная камедыя)

21 нядзеля 12.00 С.Кавалёў. **“Заяц варыць піва”** (камедыя)

28 нядзеля 12.00 С.Кавалёў. **“Хохлік”** (зімовая казка)

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. 5-36-73, 6-84-27. Каса працуе з 10.00 да 14.00.

## Святочнае відовішча

МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны драматычны тэатр пачынае навагодні марафон і прапануе ўсім маленькім маладзечанцам “Навагодні серпанцін”. У праграму відовішча ўваходзіць ранішнік “Навагодняе махлярства нячыстай сілы” з песнямі, конкурсамі, загадкамі, а таксама спектакль “Зоркі летавіцы”.

Казачныя персанажы сустрэнуць хлопчыкаў і дзяўчынак ужо ў фае, праводзяць у залу, уручаць падарункі.

Чакаем вас з 19 снежня 2003 года па 4 студзеня 2004 года кожны дзень у 10 і 13 гадзін. Даведкі па тэл. 5-26-16, 6-17-32, 5-24-17.

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

## Свята музыкі

**МАЛАДЗЕЧНА. Свята беларускай музыкі «Чароўны звон цымбалаў» дапамагла правесці 18 лістапада васьмікласнікам і педагогам школы-інтэрната №2 выкладчыца музвучылішча Людміла Сільчанка.**

Яна пазнаёміла выхаванцаў школы-інтэрната з гісторыяй ўзнікнення гэтага музычнага інструмента і расказала пра Іосіфа Жыновіча, які заснаваў клас цымбалаў у Беларускай кансерваторыі і сам канцэртаваў у Германіі, Канадзе, Фінляндыі, Польшчы як віртуоз-цымбаліст. Студэнты музвучылішча і навучэнцы музычнай школы паказалі, як гучыць гэты інструмент, а дзеці са школы-інтэрната спявалі беларускія песні.

**Святлана ЦІШКО.**

## «Оскар» ад чытача

**Рэдакцыя пры падвядзенні вынікаў работы за мінулы год вызначыць пераможцаў у наступных васьмі намінацыях:**

**Лепшая першая паласа** ______

**Лепшы аўтар-карэспандэнт** ______

**Лепшае фота** ______

**Навіна года** ______

**Чалавек года** ______

**Конкурс, гульня года** ______

**Падзея, мерапрыемства года** ______

**Спартсмен года** ______

**Просім вас, паважаныя чытачы, дапамагчы зрабіць нам гэты выбар. Свае прапановы дасылайце на паштовы і электронны адрасы рэдакцыі. Дасылайце свае меркаванні да 21 снежня.**

■ ПАДПІСКА 2004

# Падпішыся і выйграй

**Вечар для дваіх пры свечках у маладзечанскім кафэ “Блюз”, аўтамабільны аккумулятар “Зубр“, тваё мастацкае фота ў майстэрні Яўгена Стэльмаха, кафейны сервіз і іншыя прызы разыгрываюцца сярод падпісчыкаў на “Рэгіянальную газету” на першае паўгоддзе 2004 года. Падпішыся і выйграй прыз ад “Рэгіянальнай газеты”!**



Галоўны прыз для падпісчыкаў – рамантычны вечар на дваіх у маладзечанскім кафэ «Блюз» Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

### Умовы розыгрышу

У розыгрышы прызоў удзельнічаюць падпісчыкі, якія даслалі на адрас рэдакцыі ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2004 года на “Рэгіянальную газету” (у апошніх права двух галасоў).

Ксеракопіі або арыгіналы падпісных абанементаў на 1-ы квартал або 1-е паўгоддзе 2004 года прымаюцца да ўдзелу ў розыгрышы да 30 снежня ўключна.

Розыгрыш прызоў адбудзецца на другі тыдзень студзеня з удзелам чытачоў, работнікаў рэдакцыі, аўтарскага актыву. Вынікі розыгрышу апублікуе “Рэгіянальная газета”.

**Індэкс індывідуальнай падпіскі 63212, кошт на месяц 2460 руб.**

**Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт на месяц 7380 руб.**

**Папіска прымаецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі і паштальёнамі.**

**Даведкі па тэлефонах**
**Маладзечна 7-05-73,**
**Вілейка 5-64-68,**
**Валожын 5-54-57,**
**Мядзел 5-47-52,**
**Смаргонь 2-14-65,**
**Ашмяны 2-03-99,**
**Астравец 2-17-58.**

■ ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА

# Калі работа ў ахвоту

**МАЛАДЗЕЧНА. Вы калі-небудзь варылі дома соус? Той, з якім звычайна ядуць макарону, сасіскі, галубцы. Бачу іранічную ўсмешку на тварах. І сапраўды, навошта такі клопат, калі ў магазіне, на рынку яго столькі – што толькі паспявай дэгуставаць.**

Адно толькі КУП "Красненскі кансервавы завод" выпускае соус таматны грыбны "Дзядзька Вася", "Мінскі востры", "Мінскі далікатны", "Алімпійскі агонь" і інш. А смакавыя якасці яго залежаць ад **Таццяны Астаповіч**, якая працуе на гэтым прадпрыемстве варшчыцай.

"На кансервавы завод, — расказвае жанчына, — я прыйшла 7 гадоў таму. А да гэтага часу працавала ў Маладзечне, на швейнай фабрыцы "Камсамолка". Не сказаць, што работа абрыдла. Проста, прачнуўшыся аднойчы раніцай, зразумела, што стамілася ад дарогі. Не магу больш звяраць сваё жыццё па раскладу руху прыгарадных аўтобусаў, электрычак".

У новым калектыве прынялі добра. А вось варшчыцай Таццяна стала не адразу. Давялося, пакуль вырасла да гэтай "пасады", паспрабаваць свае сілы амаль што на ўсіх аперацыях, а пасля яшчэ пабыць у ролі вучаніцы. Сакрэты прыгатавання соусаў "выкладала" ёй **Людміла Карчміт**, варшчыца, якая добра ведала сваю справу. Побач з ёй і Таццяна адчувала сябе надзейна. Затое ніколі не забудзецца сваю першую працоўную змену ў новай якасці. Рабіла закладку, а рукі, у літаральным сэнсе гэтага слова, трэсліся. Так баялася, каб соус атрымаўся смачным і адпавядаў стандартам.

Толькі на адну порцыю "Дзядзькі Васі" варшчыцы спатрэбіцца 90 кілаграмаў таматнай пасты, 49 кілаграмаў цукру, 7,5 кілаграма солі. Далей сакрэт прыгатавання красненскіх соусаў, якія карыстаюцца папулярнасцю не толькі ў Беларусі, але і Расіі, раскрываць не будзем. Лічбы дадзены толькі дзеля таго, каб чытач мог уявіць аб'ёмы, з якімі спраўляецца за змену прадпрыемства. У дні, калі хапае сыравіны, закладка робіцца 28 разоў запар.

"Працаваць у нас цяжка, — разважае Таццяна Астаповіч. — Графік работы трохзменны, у цэху, асабліва летам, горача, ды і на нагах увесь час. Хаця, дзе яно сёння лягчэй. Калі ходзіш, абы дзень да вечара, то і зарплату атрымаеш адпаведную".



**Таццяна Астаповіч з КУП "Красненскі кансервавы завод" спецыяльным апаратам, рэфрактометрам, правярае якасць таматнага соусу, які выпускае іх прадпрыемства.** Фота Ірыны РАБУШКІ.

Не лепшыя часы перажывае сёння КУП "Красненскі кансервавы завод". Няма такой колькасці заказаў, як раней, зменшыўся асартымент выпускаемай прадукцыі. А калектыў, большасць якога складаюць старажылы, памятае тэхналогію прыгатавання рознага кшталту гароднінных закусак, салянак, сокаў, джэмаў, марынаваных памідораў, смак якіх ведалі не толькі ў Беларусі.

"У мінулым годзе, — расказвае Таццяна, — з канвеера прадпрыемства, акрамя соусаў, сыходзілі і кансерваваны боршч, і капуста свежая, кіслая. Спадзяюся, яны знайшлі свайго пакупніка, бо на смак атрымаліся нядрэнныя".

Кажуць, каб страва атрымалася смачнай, чалавек, што яе гатуе, павінен не толькі пастарацца, але яшчэ і ўкласці часцінку сваёй душы. Таццяна Астаповіч ведае гэты сакрэт, таму за работу заўсёды бярэцца з настроем і ахвотай. Кажа, што спрыяе гэтаму не толькі пачуццё адказнасці, але і адчуванне, што знайшла сваё месца ў жыцці.

**Марына СЛІЖ.**

■ НАШЫЯ ГРОШЫ

# Нясіце бутэлькі нарыхтоўшчыкам

**МАЛАДЗЕЧНА. Жыхарам горада і прадпрыемствам больш не трэба займаць свае склады і балконы скарыстанымі пластыкавымі бутэлькамі з-пад мінеральнай вады, газіраваных напояў і піва. Маладзечанская гарадская нарыхтоўчая кантора некалькі месяцаў таму пачала прымаць тару з поліэтылентэрафталату, або ПЭТ-бутэлькі. Прычым не толькі ад прадпрыемстваў, але і ад насельніцтва.**

«Акрамя таго, што смецця стане менш, гэта яшчэ і выгадна самім прадпрыемствам», — сказала вядучы спецыяліст інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Галіна Унукоўская**.

Справа ў тым, што ў канцы лютага 2003 года Савет Міністраў прыняў пастанову, паводле якой прызнаецца, што пластмасавая тара аказвае шкоднае ўздзеянне на навакольнае асяроддзе. «Прырода не разумее, што рабіць з пластыкам», — сказала ў інтэрв'ю «РГ» Наталля Рабава, мэнэджар адукацыйных праграм рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Экадом». Таму прадпрыемствы і прадпрымальнікі, якія рэалізуюць тавары, упакаваныя ў такую тару, згодна з той жа пастановай раз на паўгода павінны плаціць за перапрацоўку тоны адходаў 60 базавых велічыняў (990000 рублёў). Чым больш тавару ў пластыкавай упакоўцы арганізацыя вырабіла ці прывезла ў краіну для рэалізацыі, тым большую суму грошай яна заплаціць.



**Скарыстаныя пластыкавыя бутэлькі цяпер можна здаць у нарыхтоўчую кантору.** Фота Святланы ЦІШКО.

Дырэктар СП «Каларыт» Уладзімір Круцько пацвердзіў, што прадпрыемству выгадна супрацоўнічаць з нарыхтоўчай канторай. Бо ў залежнасці ад колькасці здадзеных бутэлек змяншаецца плата за перапрацоўку.

За адну «паўтарачку» нарыхтоўчая кантора плаціць насельніцтву 5 рублёў, за кілаграм — 100 рублёў. Для разлікаў з прадпрыемствамі выкарыстоўваюцца дагаворныя цэны. Бутэлькі павінны быць без этыкеткі, без корка і кальца ад яго. У нарыхтоўчай канторы іх спрасоўваюць у цюкі па 70-80 кг і адпраўляюць на перапрацоўчае прадпрыемства. У Беларусі іх 9. Маладзечанскія нарыхтоўшчыкі супрацоўнічаюць з прадпрыемствам «Белзнешпрадукт» з Самахвалавічаў, бо яно само прысылае машыну па сыравіну. На перапрацоўчых прадпрыемствах былыя бутэлькі мыюць, дробяць на кавалачкі памерам прыкладна 1 сантыметр квадратны. З масы поліэтылентэрафталату вырабляюць новыя флаконы і каністры для нехарчовых тавараў.

У Маладзечне 7 пунктаў гарадской і 1 пункт раённай нарыхтоўчых кантор. Аказалася, што на рынку, у пункце раённай канторы, аддаюць перавагу вялікай колькасці сыравіны. На пытанне «Ці прымаеце ПЭТ-бутэлькі?» прыёмшчык адказаў сустрэчным пытаннем «Колькі ў вас кілаграмаў?» і дадаў, што з 1-2 кілаграмамі і займацца не варта. «Куды іх пасля дзець?» — так растлумачыў ён сваю пазіцыю. І ў той жа час таваразнаўца гэтай арганізацыі **Валянціна Антонава** запэўніла, што ПЭТ прымаюць усе нарыхтоўчыя пункты, нават машыны, якія збіраюць другасную сыравіну па вёсках.

Цяпер па тэлевізары круціць рэкламу спецыяльных кантэйнераў для збору пластыкавых бутэлек. У Маладзечанскім УП «Камунальнік» патлумачылі, што ў горада на іх пакуль што няма грошай. Між тым паасобны збор смецця мае не толькі эканамічнае, але і экалагічнае значэнне. Мэнэджар адукацыйных праграм грамадскага аб'яднання «Экадом» растлумачыла, што смецнікі, на якія разам з прадуктовымі адкідамі і рыззём выкідаюць пластык, выдзяляюць метан, бывае іх самаўзгаранне. Здараецца, што прадукты гніення смецця трапляюць у грунтовыя воды, якія ачысціць вельмі складана. Гэта вада пасля па трубах ідзе ў нашы кватэры. Калі смецце сабраць асобна, яго можна асобна перапрацаваць або абясшкодзіць. Пакуль макулатуру, шкло, пластык, гуму і тэкстыль выкідаюць разам, нічога, акрамя смецніка, не атрымаецца.

У нашым рэгіёне ПЭТ-бутэлькі прымаюць таксама ў Валожыне. У Смаргоні і Ашмянах — не. Сутыкнуўшыся з пэўнай праблемай, па-першае, здатчыкі не ачышчаюць бутэлькі ад паперы, па-другое, няма спецыяльнага прэса, адмовіліся ад гэтай справы ў Астраўцы. А вось у Мядзеле і Вілейцы плануюць арганізаваць нарыхтоўку бутэлек і рабіць для гэтага адпаведныя заходы.

**Святлана ЦІШКО.**

**Пластыкавым бутэлькам – «другое жыццё»**

## Конкурс для вынаходлівых

З пластыкавых бутэлек робяць падстаўкі для алоўкаў, гаршкі для кветак, упрыгожанне з пенапластам, шуфлік для мукі, цукру і крупаў...

**А што вы, шаноўныя чытачы, робіце з імі?**

**Дасылайце нам свае прапановы, апісвайце вынаходніцтвы.** Хто дашле найбольшую колькасць і апісанне самага арыгінальнага выкарыстання ПЭТ-бутэлькі, стане героем публікацыі. Яго фотаздымак разам з вынаходніцтвам будуць змешчаны ў газеце. **Чакаем вашых адказаў да Новага года.**

Аддзел інфармацыі "РГ".

## Курсы валют НБ РБ

| | 20.11 руб. | 27.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2136,00 | 2141,00 |
| Еўра | 2550,92 | 2531,20 |
| Злоты | 552,39 | 545,16 |
| Літ | 738,87 | 733,13 |
| Расійскі рубель | 71,68 | 72,00 |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 2140/2160 | 2145/2165 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 19.11 | 26.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13600 | 13800 |
| Сасіскі, 1 кг | 4600 | 4600 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 900 | 900 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1450 | 1350 |
| Алей, 1 л | 2100 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 490 | 570 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2200 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 900 | 900 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 780 | 780 |
| Капуста, 1 кг | 160 | 150 |
| Морква, 1 кг | 300 | 300 |
| Лімоны, 1 кг | 2750 | 3000 |
| Апельсіны, 1 кг | 1950 | 1980 |
| Яблыкі, 1 кг | 1150 | 950 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 900 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4900 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 2500 |
| Бульба, 1 вядро | 2300 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 1200 | 1000 |

 



БАРЫС КІТ
Запіс Васіля БЫКАВА

# Цярновы шлях

**"Рэгіянальная газета" працягвае друкаваць успаміны аднаго з самых вядомых беларусаў XX стагоддзя Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 года ў Франкфурце-на-Майне. Поўны іх тэкст шукайце на сайце газеты па адрасе regionnews.promedia.by.**

Лёс мне даў магчымасць жыць на Беларусі толькі 20 год. Але усе тыя беларускія дзеячы, што прайшлі каля мяне, засталіся вельмі для мяне пашаноўныя, я усіх іх люблю — і Тарашкевіча, і Астроўскага. Яны прысьвяцілі свае жыцьці барацьбе за беларускую справу. Гэта значыць, што Беларусь жыве і будзе жыць заўсёды.

У 1972 годзе я выйшаў на пэнсыю і атрымаў пасаду прафэсара Мэрыляндзкага унівэрсытэту, выкладаў матэматыку ў эўрапейскім аддзеле, галоўная кватэра якога месьцілася ў Гайдэльбэргу. Там я працаваў аж да 92 году, выкладаў матэматыку ў 40 амэрыканскіх цэнтрах у Эўропе. Гэта таксама была вельмі цікавая праца. Нас, выкладчыкаў было шмат, і мы працавалі ў васьмі краінах Эўропы. Апроч таго, нашыя філіялы былі ў Азіі і Афрыцы, дзе толькі размяшчаліся амэрыканскія войскі. Нашыя філіялы былі нават у В'етнаме, выкладалі матэматыку на авіяматках. Амэрыканцы клапаціліся, каб іхнія салдаты пад час службы атрымлівалі адукацыю. Найбольшая колькасьць амэрыканскага войска было ў Нямеччыне. Я ўвесь час жыў у Франкфурце, і кожны семэстр атрымліваў новае прызначэньне, у новы горад, куды і езьдзіў на ўласным аўтамабілі. Я ганаруся ня толькі тым, што 15 год працаваў у Беларусі для беларускага школьніцтва, а і тым, што 30 год быў прафэсарам амэрыканскага унівэрсітэту і маю найвышэйшыя ўзнагароды. Пра Мэрыляндзкі унівэрсітэт адзін з вялікіх ангельскіх гісторыкаў Торнбэй неяк сказаў: у Мэрыляндзкім унівэрсытэце сонца ніколі не заходзіць. Тое праўда, бо мы мелі свае аддзелы і ў Азіі, і ў Эўропе, і ў Амэрыцы, і сонца над намі ніколі не заходзіла.

Антон Зыгмунт, адзін з найвялікшых матэматыкаў XX стагодзьдзя, быў маім прафэсарам у Віленскім унівэрсітэце. Пад час другой сусьветнай вайны Амэрыка запрасіла яго да сябе і тым выратавала ад пагібелі. Там ён увесь час быў прафэсарам Чыкагскага унівэрсітэту, аднаго з найвялікшых унівэрсітэтаў Амэрыкі, дзе тварыў новую матэматыку. Шмат якія ягоныя вучні сёньня сталі вялікімі матэматыкамі. Пад канец сваёй дзейнасьці ён з рук прэзыдэнта Кенэдзі атрымаў найвялікшую навуковую ўзнагароду Амэрыкі. Ён быў цудоўны чалавек, заўжды рупіўся пра сваіх студэнтаў. Прыехаўшы ў Амэрыку, я ўзнавіў зь ім сувязь, ён пісаў мне рэфэрэнцыі для паступленьня на працу. Зь Эўропы я часам наведваў яго ў Чыкага і аднойчы запытаў, колькі пад яго кіраўніцтвам выйшла дактароў матэматыкі? Дык ён кажа: ну, каля ста. А ці хто-небудзь напісаў пра вас, зрабіў аналіз вашае дзейнасьці? Аказалася — ніхто. Дык я падумаў, што трэба тое зрабіць мне. І з гэтага ўсё пачалося.

Я ўзяў у яго матэрыялы і ўжо, жывучы ў Нямеччыне, зьвязваўся з рознымі унівэрсітэтамі, асабліва з унівэрсітэтам у Равенсбургу, адным са старэйшых у Нямеччыне. Там я спаткаў прафэсара Тота і прадставіў яму 10 тэмаў, апошнім у якіх стаяла прозьвішча Зыгмунта. Дык Тот выбраў менавіта яго. Пяць год я працаваў над дысертацыяй. Трэба было разабраць 900 тэарэмаў Зыгмунта ды шмат чаго іншага. За гэтую працу я атрымаў ступень доктара матэматыкі і гісторыі навукі.

Варта адзначыць адзін асабісты момант маіх дачыненьняў да Зыгмунта. У Вільні я жыў у Новай каленіі, і Зыгмунт аднойчы прыехаў да мяне і на летні час пасяліўся ў маім доме разам з жонкай, таксама матэматыкам унівэрсітэту, і малым сынком. Сын быў малы і часта хварэў, а я езьдзіў у аптэкі па лекі для яго. Праз шмат год жонка памерла ў Амэрыцы, а сын скончыў адзьдзел эканомікі ва ўнівэрсітэце і стаў вельмі пасьпяховым бізнесмэнам. Ён жыў у Англіі, меў уласны самалёт. Пад час сьвяткаваньня свайго дня нараджэньня з двума калегамі паляцеў на тым самалёце, які пацярпеў катастрофу. Усе загінулі. Гэта так падзейнічала на бацьку, што хутка памёр і Зыгмунд.

З Гайдэльбэргскага ўнівэрсітэту, які налічвае каля 600 гадоў, выйшла вялікая колькасьць славутых навукоўцаў у розных галінах. У Беларусі ў гэтым сэнсе куды як бракуе. Затое Беларусь славутая сваёй літаратурай, якая сапраўды робіць ёй сусьветную славу. Кепска, што беларуская дыяспара ў некаторых адносінах папсавала імідж Беларусі. Галоўным чынам сваімі звадамі. Праўда, з амерыканцамі ў мяне былі нармальныя адносіны, затое між сабой увесь час сварыліся. Без асаблівых прычынаў. Я заўсёды быў супраць таго, стараўся памірыць усе групоўкі. У сваю калёнію Саут Рывер прымаў усіх, не зважаючы на партыйную прыналежнасьць, і тым ганаруся. Але яны таго ня ведаюць, і хай гэта сягоньня прагучыць.

У Амэрыцы я ня меў ніякіх сувязяў з расейцамі, за выняткам хіба аднаго сьвятара з Вашынгтона айца Дзмітрыя Грыгор'ева. І то толькі таму, што трэба было вянчаць майго сына ў праваслаўнай царкве, ды хрысьціць маю унучку. Мы зь ім мелі добрыя адносіны, але, нажаль, у апошні час разышліся з-за сваіх палітычных перакананьняў. Як і шмат якія расейцы ён цяпер думае адно і тое ж: Расія — адзіная і недзялімая. А я стаю за незалежнасьць Беларусі, чаго яна поўнасьцю заслугоўвае. Тое прызнаюць усе народы сьвету, што не спадабалася, аднак, айцу Дзмітрыю, і мы ў апошні час вельмі разышліся.

**Працяг будзе.**

■ ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА

# Птушніца Іна

**МАЛАДЗЕЧНА. На Маладзечанскую птушкафабрыку, што ў Алёхнавічах, Іна Кебіч трапіла выпадкова. Дзяўчынка марыла быць медыкам. А стала – птушніцай, аб чым цяпер ніколькі не шкадуе.**



Іна Кебіч працуе на Маладзечанскім птушкафабрыцы птушніцай. Кажа, што работа ёй падабаецца. Фота Ірыны РАБУШКІ.

На вуліцы было золка і ветрана. Таму, як толькі зайшлі ў птушнік, працягнулі рукі да ацяпляльнага катла, што дыхаў гарачынёй і смалістым пахам дроў. Саграліся надзвычай хутка. У памяшканні, дзе ўтрымліваецца маладняк, тэмпература ніколі не апускаецца ніжэй 23 градусаў цяпла.

Гукнулі гаспадыню. Яна, здаецца, нас не пачула. Не дзіва згубіцца ў такім велізарным памяшканні з мноствам клетак і клетачак, у якіх колькасць насельнікаў вагаецца ад 15 да 18 тысяч. І ўся гэта пушыстая, піскілвая гвардыя рэгулярна просіць піць і есці.

"Як спраўляецеся адна з такім сямействам", — пытаюся ў птушніцы Іны Кебіч. Яна ў адказ толькі ўсміхаецца, а пасля дадае: "Яны ж такія маленькія, а я – вялікая".

У птушнік № 4 гэтыя куранята паступілі ў сутачным узросце. Тады ім было па 19 дзён, і самыя задзірыстыя насельнікі пачалі "падымаць пер'е". "Менш чым праз месяц, — гаворыць Іна, — гэтыя птушанятыператворацца ў курэй вагой у 1,5 – 2 кілаграмы. Вось тады будзе работы неўправарот".

У брыгадзе Іна самая малодшая. Але даўно ўжо паспела даказаць, што молада – не зелена. На зменную птушніцу калегі смела пакідаюць сваю гаспадарку. Ведаюць, што не падвядзе іх, не пакрыўдзіць гадаванцаў.

На Маладзечанскую птушкафабрыку яна прыйшла выпадкова. Не вытрымала экзамены ў медыцынскае вучылішча і мусіла, хаця б на год, шукаць работу. Сусед, а жыве Наташа ў Гарадку, параіў паспрабаваць сябе ў ролі птушніцы. Адразу Іна вагалася і нават пабойвалася. Як жа справіцца адной з такой гаспадаркай? На дапамогу прыйшлі брыгадзір Людміла Буцэнь, птушніцы Валянціна Галубцова, Ніна Валынец, Валянціна Перапяліца, якія адносяць сябе да старажылаў птушкафабрыкі. У іх і вучылася спасцігаць асновы сваёй цяперашняй работы. А праз нейкі час настолькі пасябравала з калегамі, што стала бегаць да іх не толькі за парадай, але і падзяліцца сваімі дзявочымі сакрэтамі.

"Я часта думаю, — гаворыць Іна, — чаму не паехала паступаць на наступны год. Я ж так да экзаменаў рыхтавалася. А вось цяпер, адпрацаваўшы ў птушніку тры гады, зразумела: не змагла адарвацца ад калектыву, работы, што прыйшлася па душы. Ды і на такое паняцце, як прэстыжнасць, стала глядзець па-іншаму. Не месца ж, у рэшце рэшт, упрыгожвае чалавека?!".

**Марына СЛІЖ.**

■ ЗНАЁМЦЕСЯ – КІЯСКЁР

# Газеты не надакучылі

МАЛАДЗЕЧНА. У дзень 85-годдзя «Белсаюздруку» Святлана Мельнікава працавала ў першую змену. Яе кіёск — каля магазіна «Космас», насупраць СШ №8. Расказала, што працуе кіяскёрам з 1982 года. Закончыла Мінскае кааператыўнае вучылішча па спецыяльнасці «прадавец» і спачатку была прадаўцом у магазіне. Пасля — касірам па продажы праязных білетаў у аўтапарку №4. Памятаеце, быў час, калі талоны на праезд прадаваліся ў газетных кіёсках? На гэтай рабоце касір аўтапарка Святлана Мельнікава пазнаёмілася з кіяскёрам Тацянай Кулінковіч. І калі напарніца Тацяны звольнілася, яна прапанавала і Святлане Мельнікавай стаць кіяскёрам.



Вольга Невядомская. Фота Святланы ЦІШКО.



Святлана Мельнікава. Фота Святланы ЦІШКО.

Працавала ў розных шапіках, таму ведае спецыфіку розных пунктаў гандлю газетамі. «На аўтавакзале ўсе пакупнікі — праезджыя, пастаянных амаль не бывае. А тут, каля школы, кантынгент больш-менш пастаянны.

Па словах Святланы Мельнікавай, калектыў маладзечанскіх кіяскёраў вельмі змяніўся. «Закаранелых» работнікаў толькі 6-7. Але і яны рэдка сустракаюцца — графікі ва ўсіх розныя.

За 20 гадоў працы шмат што змянілася. Святлана Мельнікава расказала, што раней самай дарагой газетай была «Праўда» — 5 капеек. А былі і па 2, па 4 капейкі. Пасля цэны выраслі, яшчэ праз нейкі час прыйшла дэнамінацыя, «адкідалі нулі». Цяпер газет і часопісаў стала больш. Хутка ў шапікі абяцаюць паставіць касавыя апараты. «Такія нававядзенні трохі палохаюць, — кажа Святлана Мельнікава. — Мы ж не ведаем, якія гэта будуць апараты, як з імі працаваць».

Напарніца Святланы Мельнікавай, Вольга Іванаўна Невядомская, у «Белсаюздруку» — з 1990 года. Да гэтага 19 гадоў была поварам, у кіяскёры пайшла па стане здароўя. Кажа, што раней давала людзям ежу для росту цела, а цяпер — для душы. «Тут як у сталовай, — тлумачыць яна. — Адкажаш на пытанне пакупніка ціха — не чуюць. Скажаш грамчэй, пытаюцца, чаго я крычу. А нам' цяжка прадбачыць, ці чуваць на вуліцы».

Нейкі час працавала на паштаўкі ў шапіку каля друкарні. Але яго перавялі на 2 змены, трэба было браць цэлую стаўку. Таму Вольга Іванаўна перайшла ў кіёск каля «Космасу», хоць ездзіць на работу даводзіцца праз увесь горад. У студзені яна можа ісці на пенсію. Але калі прапануюць застацца, то хутчэй за ўсё пагодзіцца: з пенсійных выплат цяжка аплаціць ацяпленне кватэры.

За 13 гадоў працы ў «Белсаюздруку» газеты не надакучылі. Часам Вольга Невядомская чытае іх і дома.

**Святлана ЦІШКО.**

 

 



# І лекі могуць стаць атрутай

**Штогод кожнае дзіця становіцца ахвярай прынамсі аднаго няшчаснага здарэння, нязначнага або сур'ёзнага. У развітых краінах больш за 50% выпадкаў смерці дзяцей абумоўленыя транспартнымі і бытавымі траўмамі, апёкамі, ударамі электрычнага току, утапленнямі і атручэннямі.**

Праблема папярэджання дзіцячых атручэнняў становіцца актуальнай ва ўсім свеце. У нашых дамах з'яўляецца ўсё больш хімічных сродкаў і моцных лекаў. Колькасць патэнцыяльных ядаў ужо перавышае 300 тысяч, а ў продаж штогод паступае каля 50 тысяч новых хімічных рэчываў і прэпаратаў. У некаторых краінах атручэнні займаюць 3-е і нават 2-е месца сярод усіх няшчасных выпадкаў. Навукоўцы адзначаюць, што найчасцей гэта адбываецца ў пяцігадовым ўзросце.

У тым, што дзіця трапляе ў рэанімацыю, усё часцей вінаватыя медыкаменты. Кожная гарадская сям'я мае каля 25, а вясковая каля 12 упаковак розных лекаў. Частата атручэнняў імі залежыць ад узросту дзіцяці. Надзвычай высокая яна — 80% ад агульнай колькасці — у першыя тры гады жыцця. Адна з прычын гэтага — цікаўнасць. Яны самастойна адчыняюць шафы і тумбачкі, вымаюць з іх усе прадметы, асабліва яркія упакоўкі, цягнуць іх у рот, каб паспрабаваць. Да пяці гадоў дзеці самастойна ўжываюць толькі салодкія лекі, думаючы, што гэта цукеркі ці вітаміны. Усвядомленае прыманне небяспечных рэчываў у 12-15 гадоў абумоўленае канфліктнымі сітуацыямі ў школе і дома. Яшчэ адной прычынай атручэнняў дзяцей з'яўляецца няправільнае захоўванне лекаў. Бацькі трымаюць іх на стале, падаконніках, у шафках, тумбачках, на кніжных паліцах, а нярэдка ў некалькіх месцах адначасова.

Каля 40% дамашніх трагедый прыпадае на суботу і нядзелю, калі бацькі занятыя хатнімі справамі, што накапіліся за тыдзень, і дзеці застаюцца без нагляду.

Атручэнні магчымыя яшчэ і пры самалячэнні, калі хворае дзіця «па ўласнай ініцыятыве» прымае медыкаменты. А таксама калі бацькі даручаюць старэйшым дзецям лячэнне малодшых.


«Хуткая» спяшаецца на выклік.

Апісаць усе прычыны атручэнняў дзяцей немагчыма. Вядома адно: усе яны адбываюцца з-за недагляду дарослых. У навуковай літаратуры прыводзяцца наступныя дадзеныя залежнасці частаты атручэнняў ад таго, хто даглядае дзяцей: бабуля — 40%, маці — 35,2%, бацька — 2,6%, дзядуля — 1,9%, іншыя сваякі — 13,8%. Гэта не значыць, што маці і бабулі самыя няўважлівыя. Проста таты і дзядулі з імі бываюць менш.

Лячыць атручэнні цяжка. Поспех намаганняў доктара залежыць ад колькасці ўжытага прэпарата, узросту дзіцяці і своечасовасці дыягназу. Для доктара надзвычай важна ведаць, калі адбылося атручэнне і якімі лекамі, бо гэта вызначае тактыку лячэння. На жаль, нярэдка гэтыя важныя звесткі атрымаць не ўдаецца.

**Уладзімір СВІТО, намеснік галоўнага доктара па лячэбнай частцы, Сяргей ВАРОНІН, загадчык аддзялення рэанімацыі.**

**Працяг тэмы ў адным з наступных нумароў газеты.**

■ КАМПЕТЭНТНА

## Дзве язвы-сястрыцы

**Калі мы гаворым "язва", то маем на ўвазе страўнік ці дванаццаціперсную кішку. Пры ўсіх адрозненнях гэтыя хваробы можна назваць сёстрамі-блізнятамі. А аб'ядноўваюць іх малады узрост – 75% хворых няма і 40, дыктатарскія замашкі – ад іх пакутуе 15-20% насельніцтва, сезонныя прэтэнзіі – асеннія і вясеннія абвастрэнні.**

Памагатымі язвеннай хваробы лічацца: павышаная кіслотнасць страўнікавага соку, які быццам бы абпальвае слізістую і стварае ўмовы для ўзнікнення язвы; недастаткова шчыльнае закрыццё засланкі паміж страўнікам і дванаццаціперснай кішкой, у выніку ці ў кішку трапляе вельмі многа салянай кіслаты, ці, наадварот, у страўнік выкідваецца шчолачнае змесціва; парушэнне выпрацоўкі слізі, якая ахоўвае сценкі страўніка ад уздзеяння салянай кіслаты (гэта здараецца і пры бяссонніцы); няправільнае харчаванне, калі аддаецца перавага прадуктам хуткага прыгатавання – чыпсам, гамбургерам, бульбе-фры, марынадам і перцу; сезонныя хістанні біярытмаў, яны робяць нас асабліва безабароннымі перад язвай восенню і вясной; стрэсы, курэнне і алкаголь, якія выклікаюць парушэнні мікрацыркуляцыі крыві ў сценках страўніка і дванаццаціперснай кішкі; спадчыннасць.

Бескантрольны прыём некаторых лекавых прэпаратаў таксама можа прывесці да язвы. Прыкладна кожны трэці ў свеце прымае лекі без урачэбнага кантролю, у выніку кожны трэці пакутуе ад язвы. У небяспечны спіс уваходзяць: аспірын (асабліва небяспечна піць яго да яды, малыя дозы гэтак жа небяспечныя, як і вялікія); нестэроідныя супрацьзапаленчыя прэпараты, такія, як дзікланат, артафен, інш.; антыкаагулянты, якія паніжаюць згусальную здольнасць крыві; глюкакартыкоіды – гарманальныя сродкі, аналагічныя гармонам надныркавых.

Даўно вядома, што важную ролю ў развіцці ўсіх хвароб, у тым ліку і язвы, адыгрываюць асаблівасці псіхікі. Псіхолагам удалося ўстанавіць "трыяду рызыкі" для язвеннай хваробы. Гэта зніжаная самаацэнка, высокія прэтэнзіі, залішняя трывожнасць.

Новы погляд на прычыну язвеннай хваробы прыйшоў у 1983 годзе з Паўднёвага паўшар'я. Аўстраліец Б.Маршал адкрыў бактэрыю хелікабактэр пілоры.

Мікроб добра адчувае сябе там, дзе іншыя не выжывалі, – унутры страўніка, у растворы салянай кіслаты. Да таго ж, яго знайшлі ў людзей, якія пакутуюць на гастрыт і рак страўніка. З таго часу гэтая бактэрыя лічыцца прычынай хвароб страўнікава-кішачнага тракту. Хелікабактэр хітры. Ён абараняецца ад пераварвання, схаваўшыся пад слізззю, як у скафандры, і трывала прымацоўваецца да клетак абалонкі страўніка ці дванаццаціперснай кішкі. Так ён чакае, пакуль стрэс, няправільнае харчаванне ці іншы шкодны фактар не пашкодзяць слізістую абалонку. Тады ён пачынае разбуральную работу.

Выяўленую язву важна як мага хутчэй пачаць лячыць. У гэтым выпадку пасля 6-8 тыдняў медыкаментознай тэрапіі звычайна ўдаецца дабіцца стойкага эфекту.

Калі людзі доўга жадаюць недасягаемага, увесь час імкнуцца ўсім штосьці даказаць, то гэта ім псуе характар. З'яўляюцца агрэсіўнасць, трывожнасць, канфармізм у паводзінах. Тут самы час успомніць, што хранічнае эмацыянальнае напружанне вядзе да сур'ёзных захворванняў. Лепшы час звярнуцца да псіхолага, каб не спатрэбіўся гастраэнтэролаг, а то і хірург.

**Мікалай ГЛАЎНІЦКІ, хірург гарадской бальніцы.**

■ ЗДАРОЎЕ БЕЗ ЛЕКАЎ

## Не адолее нават грып!

**Я шмат гадоў не ведаю, што такое грып і прастуда. А сакрэт просты: з верасня па сакавік кожны дзень п'ю цудадзейныя "дамашнія" лекі, якія і вам рэкамендую.**

Дробна парэжце палавіну лімона з цэдрай на талерачцы (каб застаўся сок). Туды ж пакрышыце 7-8 зубчыкаў часнаку сярэдняй велічыні. Усё гэта змясціце ў паўлітровы шкляны слоік і заліце халоднай кіпячонай вадой. Пакіньце сумесь у цёмным месцы на 4 дні, а потым – у халадзільнік (лімон і часнок з вадкасці не вымайце). Прымайце 1 раз у дзень раніцай за 20 мінут да яды па 1 сталовай лыжцы. Дзецям у залежнасці ад узросту давайце чайную лыжку ці дэсертную. Калі змесціва ў слоіку застанецца мала, пачынайце рабіць новую порцыю (перапынку ў прыёме быць не павінна). Не бойцеся піць перад выхадам на работу – яно пахне лімонам.

На жаль, людзям з захворваннямі страўнікава-кішачнага тракту гэтыя лекі супрацьпаказаныя.

**Алена БЕРМУДАС.**

■ ПАРАДЫ АД РЭГІЯНА

## Лячыцеся правільна



**Вельмі часта мы прыбягаем да антыбіётыкаў – не бяскрыўдных нават па меркаванні медыкаў, — пры пачырваненні горла, невялікім насмарку, знешніх і ўнутраных запаленнях... Не варта і пералічваць. Вядома, у ва многіх выпадках антыбіётыкі неабходныя, але часцяком цалкам можна абысціся і без іх:**

– **пры танзіліце і нават гнойнай ангіне** некалькі разоў на дзень змазвайце міндаліны харчовай содай, памакнуўшы ў яе мокры палец, пасля чаго на працягу 2-х гадзін не піце і не ешце;

– **пры пякоце і сухасці ў носе ці чханні** змажце мокрым пальцам з харчовай содай паласці носа і ўцягвайце носам паветра некаторы час. Гэта працэдура не дасць развіцца насмарку. Харчовая сода – цудоўны сродак супраць абвастрэння сінусіту, калі вам удасца "захапіць" яго ў самым пачатку;

– **пры грудным кашлі** некалькі дзён на ноч націрайце грудную клетку настойкай ёду. Працэдура дапамагае і пры плеўрыце;

– **не выцягвайце іголкай стрэмку,** як бы глыбока яна ні засела. Намажце гэты ўчастак ёдам (магчыма, працэдуру прыйдзецца паўтарыць некалькі разоў), і стрэмка "згарыць";

– **пры ўдары і расцяжэнні звязак** праціарайце балючае месца ёднай настойкай. Аднаўленчы працэс паскорыцца, і ў далейшым, пры перамене надвор'я, траўма не будзе нагадваць аб сабе;

– **той, хто пакутуе на грыбковыя захворванні пазногцяў**, ведае, як цяжка вылечыць яго. Пачынае развівацца дэфармацыя пазногцевай пласцінкі. Добрага эфекту можна дасягнуць з дапамогай ёду: зрабіце гарачую ванначку для рук ці ног, здыміце пілкай паверхневы слой пазногцяў, апрацуйце іх ёднай настойкай, а затым пакрыйце лакам. Паўтарайце кожны тыдзень;

– ёд дапамагае **пры лёгкіх гінекалагічных запаленнях** – ім змазваюць скуру ніжняй часткі жывата 3-4 вечары запар;

– некалькі крапляў ёду ў невялікай колькасці вады – дзейсны сродак **пры страўнікава-кішачных расстройствах**.

## Гэты незамяняльны жгут

**Выратаванне жыцця чалавека ў экстрэмальных сітуацыях у першую чаргу залежыць ад якасці сама- і ўзаемадапамогі. Пры раненнях артэрый выкарыстоўваецца артэрыяльны жгут.**

Згодна з патрабаваннямі, ён накладваецца вышэй месца крывацёку. Перавага метада ў тым, што жгут парушае кровазварот канечнасці ў разумна-дастатковай колькасці.

Крывацёк павінны быць спынены першым абаротам жгута, пры гэтым важна не зашчаміць скуру. Наступныя абароты толькі замацоўваюць першы. Вельмі грубая памылка, калі крывацёк спыняецца апошнімі абаротамі ды яшчэ ў спешцы завязваецца вузел. Канцы жгута фіксуюцца згодна з яго канструктыўнымі асаблівасцямі.

Калі жгут аслабне ці спаўзе, то крывацёк можа нават узмацніцца. З артэрыяльнага ён становіцца вянозным.

Могуць здарыцца ўскладнёныя акалічнасці: раненні, кантузіі, эмацыянальныя стрэсы ў выратавальніка, цемната, запыленне і задымленне, вялікая колькасць пацярпелых, адсутнасць вопыту. Тады трэба дзейнічаць інакш. Ідэальнае месца для накладання жгута некалькі вышэй лакцявога ці каленнага сустава. Там артэрыя вельмі лёгка прыціскаецца да касці. Меншая верагоднасць, што жгут спаўзе пры транспарціроўцы пацярпелага.

Самая распаўсюджаная памылка – гэта калі жгут накладваецца пры моцным вянозным крывацёку, дзе дастаткова тугой павязкі. Але дэфектам аказання меддапамогі гэта не лічыцца. Хутчэй гаворыць аб рэакцыі выратавальніка.

**Аляксандр ГУЛАК, доктар.**

 

■ ПРАФЕСІЯ

# Цырк. Цырк? Цырк!

**МАЛАДЗЕЧНА. Цырк — гэта, бадай, адзінае відовішча, якое падымае настрой і малым, і дарослым. Але што стаіць за ўсмешкай цыркача?**



Кіраўнікі цыркавой студыі, якая працуе ў Доме культуры чыгуначнікаў, Святлана і Віктар Горлавы.



Выхаванка цыркавой студыі маладзечанка Алёна Варажцова.



Выхаванка цыркавой студыі маладзечанка Алеся Саўчыц.

## Адкрываем заслону

У аўторак выхаванцы цыркавой студыі, што працуе пры Доме культуры чыгуначнікаў, **Святлана Каўрыгіна** і **Алеся Паплеўка** паехалі выступаць ў Тайвань. Кожныя паўгода кітайцы ладзяць цыркавую праграму з удзелам беларускіх артыстаў. Гэта адна з нямногіх магчымасцяў ажыццявіць мару беларуса працаваць цыркачом. Яшчэ цяжэй набыць гэтую прафесію. Другі год у Беларусі няма ніводнай навучальнай установы, дзе вучаць на акрабатаў, жанглёраў, клоунаў... Нейкі час было аддзяленне ў ранейшым інстытуце культуры. Але, па словах кіраўнікоў Маладзечанскай цыркавой студыі **Віктара і Святланы Горлавых**, з-за малой зарплаты спецыялісты ў гэтай галіне не бяруцца за такую адказную і сур'ёзную справу, як цырк.

Мяркую, Віктару і Святлане давяраць можна. Яны — цыркавыя артысты з 20-гадовым стажам. І ўжо 16-ы год вучаць дзяцей лоўкасці, смеласці, стойкасці, адказнасці. Што, на думку кіраўнікоў студыі, спатрэбіцца паветраным гімнастам, акрабатам, жанглёрам, клоунам, эквілібрам, якія ездзяць на монацыкле (на адным коле).

## Апладысменты, апладысменты

Іх заслужыць складана. І маленькім артыстам, і вопытным. Рэха ад апладысментаў, якія былі для 24-гадовых акрабатаў-вальтыжораў Віктара і Святланы, чуецца ім і цяпер. Гэта было ў Ваўкавыску на Гродзеншчыне, і тады яны яшчэ не працавалі ў пары. Віктар прыехаў на гастролі са сваёй партнёршай і перакідваў яе ў паветры, нібы мячык. Святлана таксама была ў ролі «мячыка», толькі ў сваёй пары. Хутка іх дуэты распаліся. Партнёршы Віктара перашкодзіла замужжа, партнёр Святланы выйшаў на пенсію. Дарэчы, цыркавыя артысты ідуць на заслужаны адпачынак незалежна ад узросту, галоўнае, мець 20-гадовы стаж работы.

Святлана і Віктар шукалі сабе партнёраў. У гэтым былі зацікаўленыя і іх адміністратары, якія і дамовіліся аб сустрэчы артыстаў. Так стварылася цыркавая сям'я Горлавых.

Святлана выйшла ў цыркачы з самадзейнасці. У дзяцінстве яна займалася ў той жа студыі, якой зараз і кіруе. Віктар скончыў Кіеўскае цыркавое вучылішча. Родам ён з Саратава.

Горлавы гастралявалі па ўсім былым Саюзе. Цяпер у іх дома вісіць карта СССР, на якой іголкамі пазначаны месцы, куды ездзілі. У Маладзечна вярталіся раз у год – на месяц адпачынку. І зноў дарогі, гасцініцы, гледачы.

## Пад заслону

Нягледзячы на ўсе складанасці ў Беларусі, якія былі, ёсць і будуць, Святлана і Віктар адчуваюць гонар за краіну. І зразумелі, чаму плачуць спартсмены, калі чуюць гімн роднай дзяржавы ў свой гонар. Уявіце, Афрыка, кулі, танкі, а на прадстаўленні савецкіх цыркачоў аншлаг і гучыць гімн СССР. Так было ў васьмі афрыканскіх краінах і іншых дзяржавах.

У 1982 годзе ў Анголе ішла вайна. «Дзверы гасцінічнага пакоя адкрывалі толькі на ўмоўны стук, — успамінае Святлана. — Да вокнаў падыходзіць забаранілі. У аўтобус, які выдзелілі для артыстаў, падклалі пакет з выбуховымі рэчывамі. На памяць аб гастролях засталіся фотаздымкі з кветкамі і аўтаматам у руках». А яшчэ ўспамінаецца, як кожнага гледача, што ішоў на прадстаўленне ў Палац спорту ў Анголе, абшуквалі.

Захаваліся ў сям'і Горлавых грамата і медаль, якія ўручаюць тым, хто ўпершыню перасек экватар. Незабыўны Атлантычны акіян. Выступалі на самай крайняй кропцы — Певек — у запалярным крузе.

«Як цяпер памятаю, — гаворыць Віктар, — тундру і пустэчу ў ёй. Але калі прыгледзешся і прыслухаешся, столькі ягад, грыбоў, нязвыклых гукаў і жыцця. Скрозь нейкую заслону ідуць шахцёры і нафтавікі. (Смяецца.) Нас хацелі ў шахту спусціць, на «экскурсію» — мы пабаяліся».

Памятаецца і 9-павярхоўка на 6-8 сваях на вечнай мерзлаце. І слёзы сённяшніх выхаванцаў сваёй студыі, якія хочуць спасцігаць цыркавое майстэрства, але амаль не маюць на гэта магчымасцяў.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што хоча мужчына?



**Дзіма Нядзелька, прадпрымальнік:**

— Здароўя і грошай. Каб можна было нармальна жыць. А жанчына хоча здаровага мужчыну з грашыма. Тады жыццё будзе паўнацэнным.



**Ларыса Ткачук, аграном:**

— Паслухмянства жанчыны. Менавіта так паводзяць сябе мае сын і муж. Але і жанчына хоча, каб муж слухаўся яе. Таму варта знаходзіць кампраміс. Я паводжу так, каб муж думаў, што ён галоўны. На самой справе — наадварот, толькі ён аб гэтым не здагадваецца.



**Вера Сазонава, пенсіянерка:**

— «Свежую» жанчыну. Так заўсёды гаварыў мой муж. І знайшоў. Мяркую, новая жанчына патрэбна для разнастайнасці жыцця. Жанчына ж, і асабіста я, марыць аб здароўі і спакоі ў сям'і.



**Ігар Мялюк, інжынер:**

— Нармальна жыць, есці і піць. Мяркую, што і жанчыны гэтага жадаюць. А таксама хочуць мець дзяцей і сям'ю.



**Надзея Купцова, гаспадыня:**

— Шмат грошай. Таму што мужчыны ўвесь час спрабуюць іх зарабіць. Каб заспакоіць жаноцкую душу і патрэбны грошы мужчыны. Што тычыцца жанчын, то яны хочуць кахання.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

# Будзьце шчаслівымі

**У верасні і без таго малады калектыў "Рэгіянальнай газеты" амаладзіўся яшчэ раз. На практыку прыехалі студэнты журфака: два хлопцы і дзяўчына, якая ўмела радавацца жыццю сама і не давала сумаваць астатнім.**

Прыйшоўшы раніцай на работу абавязкова знаходзіла на сваім стале вырваны з блакнота лісточак, на якім акуратным почыркам было выведзена: "Прывітанне! Удалага вам дня!", альбо "Добрай раніцы, усміхніцеся!" А ўнізе – сонейка ці вушасты ўсмешлівы заяц.

Жэніна пасланне ляжала на маім стале да канца рабочага дня. Перачытваючы яго, я і сапраўды ўсміхалася, кожны раз ловячы сябе на думцы, што для добрага настрою чалавеку не так ужо і шмат трэба.

"Божухна, — казала адна мая сяброўка, — як у гэтым жыцці ўсяго хочацца. Мець кватэру, прыстойны заробак, духі ад "Ніны Рычы", шасцісоты "Мерседэс". Мары здзейсніліся, усё гэта ў яе ўжо ёсць, а сустрэнемся – суцэльныя "ахі" ды "вохі". Вечна незадаволеная, раздражнёная. То муж недагадзіў, то дзеці з раніцы сапсавалі настрой. Ну, няма ў чалавека шчасця ў жыцці і ўсё тут.

Дзесьці давялося прачытаць: "Шчасце – гэта адсутнасць няшчасця". Лухта, падумалася ў тую хвіліну мне. Шчасце – гэта штосьці вялікае, радаснае, неаб'ёмнае. А праз два тыдні трапіла з сынам ў дзіцячае аддзяленне Маладзечанскай бальніцы. Хвароба працякала цяжка. У сценах медустановы мы сустрэлі каталіцкія Каляды, а пасля і Новы год. Як сёння, памятаю перадсвяточны горад, яркія вітрыны магазінаў, людзей, што неслі з рынку абавязковы атрыбут навагодняга свята – ёлку. Назірала за ўсёй гэтай мітуснёй з акна палаты і зайздросціла жанчынам, якія прыйдуць зараз у свае кватэры, пераапрануцца ў дамашнія халаты і будуць мыць на кухні посуд альбо гатаваць вячэру. У тую хвіліну я разумела, што шчасце – гэта не штосьці вялікае і неаб'ёмнае, а сапраўды — адсутнасць няшчасця.

Чалавек – гаспадар свайго лёсу, ён жа каваль свайго шчасця, стваральнік уласнага настрою. "Прачнулася сягоння ў чатыры гадзіны раніцы, — расказвае мая знаёмая, што жыве ў вёсцы і мае сваю гаспадарку, — падаіла карову, на веласіпед, і ў грыбы. Вымачылася па пояс, але дадому цэлы кошык крамяненькіх баравічкоў прывезла. Пакуль на работу, паспела і перабраць іх, і адварыць. Ведала ж, што незакончаная дзялянка буракоў чакае. Да вечара справілася і з ёй, затое гаспадарку ўпраўляла ўжо пры зорках. А раніцай прачнулася – і зноў у грыбы".

За што такая кара, сказаў бы песіміст. А яна расказвае пра ўсё са смехам, неяк лёгка, быццам не пра работу, а адпачынак на курорце. Лена наогул ніколі не ные. Яна з ахвотай працуе па гаспадарцы, корпаецца ў градах, мые, прасуе, робіць з дзецьмі ўрокі. І вучыцца на трэцім курсе адной сталічнай вышэйшай установы.

"Цяжка?" — пытаюся ў яе са спачуваннем у голасе. "Прарвёмся! – адказвае жанчына і весела смяецца. Я ёй веру, бо даўно пераканалася ў тым, што толькі будучы аптымістам можна дасягнуць сваёй мэты ў жыцці, датыкнуцца да шчасця і радавацца як сонцу, так і дажджу, як засушліваму лету, так і марознай зіме і бачыць ў кожнай з'яве прыроды сваю чароўнасць.

А цяпер давайце адкладзём убок газету, пойдзем на кухню, уключым кран з гарачай вадой і памыем посуд. Не са словамі, як мне абрыдлі гэтыя брудныя талеркі, а з радасцю. Будзем вучыцца быць шчаслівымі...

**Марына СЛІЖ.**

■ ЛЕГЕНДЫ РОДНАГА КРАЮ

# Як узнікла і знікла Купа

**МЯДЗЕЛ. Ручаіна, якая імкнулася з густога лесу дабрацца да возера Нарач, выбрала сабе звілісты шлях паміж двух пагоркаў. Вясной яна шырока разлівалася, вада стаяла доўга, сюды заходзіла на нераст рыба. Рознае птаства рабіла гнёзды на вялікіх купінах.**

Нішто не парушала спрадвечнага спакою. Але і сюды дабраліся людзі. На раўнінным месцы, паблізу ручаіны з купінамі, пабудавалі свае хаты. І занятак у пасяленцаў адразу з'явіўся. Мужчыны лавілі рыбу. Хапала сабе і каб абмяняць на збожжа, гародніну, садавіну. Сталі вазіць рыбу блізка і далёка. А калі вярталіся дамоў з поўнымі вазамі, дзяліліся ўражаннямі.

— Заехаў у вёску Логавіны, — расказваў рыбак Мікіта, — людзі там жывуць працавітыя, добрыя. Збыў свой тавар. Пытаюся, чаму вёску так назвалі. Адказалі, што яна знаходзіцца ў нізкім месцы, у лагчыне.

Другі рыбак кажа:

— Ледзь дабраўся з возам да адной вёскі з-за таго, што перад ёй былі вялікія лужы. Аказваецца, і вёску называюць Лужы.

Былі аповеды пра Мохавічы, Мокрыцу. Іх насельнікі такія назвы далі па выгляду паверхні зямлі, наяўнасці расліннасці.

Адзін рыбак прызнаўся, што ў яго запыталі, з якой ён вёскі. Адказаў, што жыве са сваёй працы на Нарачы. А як назваць паселішча, ніхто не дадумаўся. Спыталі, што ёсць паблізу, якія дрэвы растуць, якая яшчэ ёсць адметнасць. Адказаў, што паблізу працякае ручаіна, а каля яе – вялікія купіны, на якіх шмат гняздоўя птушак.



Мужчыны з вёскі Купа зараблялі на жыццё лоўляй рыбы. Хапала сабе і каб памяняць на збожжа, гародніну, садавіну.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

Дык і назавіце сваё паселішча Купай, — параіў старэйшы жыхар вёскі Мельнікі. — У нас амаль кожны гаспадар мае жорны, мелім збожжа на муку. Таму і вёска Мельнікі.

Задумаліся жыхары прынарачанскай вёскі: якую назву ёй прыдумаць?А тут малады рыбак вазьмі і скажы:

— У вёсцы Мазалеўшчына, дзе мяняў рыбу на збожжа, я сказаў, што вельмі скупа насыпаюць. Мне многія паказалі свае рукі ў мазалях і далі зразумець, што хлеб даецца ім нялёгка, зямля дрэнна родзіць, а таму берагуць кожны каласок, кожнае зярнятка. Калі прыехаў сюды другі раз і пачуў: "Вунь заявіўся і той, што казаў скупа, скупа. Мой ён з Купа".

Так і стала называцца адна з прынарачанскіх вёсак – Купа (ад купін і ад слова "скупа").

На сваім вяку Купа шмат чаго перажыла. Халера многіх звяла ў магілу. У першую сусветную вайну немцы выселілі ўсіх яе жыхароў (паблізу быў фронт), а дамы разабралі на зямлянкі і на паліва для іх. У 1935-1937 гадах рыбакі з вёскі Купа ўдзельнічалі ў выступленні нарачанскіх рыбакоў супраць забароны польскіх уладаў лавіць у Нарачы рыбу.

Сёння няма вёскі Купа. Яна ўвайшла ў склад курортнага пасёлка Нарач разам з суседнімі вёскамі Урлікі, Сцепянёва. Замест драўляных хат выраслі шматпавярховыя мураванні. Шмат робіцца па добраўпарадкаванні курортнага пасёлка. Адно толькі застаецца па-за ўвагай адміністрацыі, дык гэта стварэнне ў адной з наяўных драўляных хат музея возера Нарач. Нашы госці знаёміліся б з гістарычным мінулым, сённяшнім днём.

Вось і ўсё пра Купу, сённяшні курортны пасёлак Нарач. Па старой звычцы старэйшыя жыхары называюць пасёлак Купа. Маладзейшыя таксама бяруць прыклад.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ, к.п.Нарач.**

■ МАЙСТРЫ

## Музычная Мядзельшчына

**Сярод умельцаў Мядзельшчыны існавала катэгорыя майстроў, якія выраблялі музычныя інструменты. Асабліва шмат было ўмельцаў, што "нараджалі" цымбалы: у Навасёлках Уладзімір Малевіч, у вёсцы Пасынкі – Міхась Субач. У Азарках-Дварышчы рабіў цымбалы і іграў на скрыпцы Аляксей Грыневіч, які жыў тут яшчэ ў пачатку 20 стагоддзя. У Місунах іграў на скрыпцы, рабіў цымбалы і барабаны Змітрок Місуна.**

Вёска Пузыры славілася тым, што тут рабілі гармонікі, а ў Навасёлках таксама майстраваў і іграў на іх Уладзімір Захарэвіч. Славілася майстравымі-скрыпачамі і вёска Цялякі, адзін з жыхароў якой іграў на модным інструменце тых часоў – кларнеце.

Сустракаліся ўмельцы, якія ігралі на трох інструментах. Юлік Колмач з вёскі Пруднікі іграў на кларнеце, цымбалах і скрыпцы, Аляксандр Чабатар з вёскі Кусеўшчына – на цымбалах, скрыпцы, баяне.

Сярод сучасных музыкантаў добра вядома прозвішча Сяргея Хацяновіча з вёскі Восава. Яго бацька і 2 дзядзькі таксама былі музыкантамі, а навучыў іх дзед Адам. Ён іграў на гармоніку, скрыпцы, цымбалах, якія сам жа і майстраваў. Значнай падзеяй у культурным жыцці мястэчак Заходняй Беларусі былі аркестры пажарнікаў. Існавалі яны ў Мядзеле і Будславе. Аркестр у Мядзеле налічваў 28 музыкантаў, сярод якіх былі 3 таленавітыя браты Жыткевічы – Стась, Юзік і Юлік.

**Паводле кнігі "Памяць".**

■ ІМЁНЫ

# Смаргонь-Вілейка-Нюрнберг

**Здавалася б, такі трохкутнік і не выбудуеш, не акрэсліш пэўным лагічным чынам. Але гэта толькі на першы погляд. Праз лёс вядомага ва ўсім свеце яўрэйскага паэта Абрама Суцкевера, які нарадзіўся ў Смаргоні ў ліпені 1913 года, трохкутнік гэты зразумелы і цалкам лагічны.**

...Пачатак трагічнага і пякельнага лёсу – у Смаргоні. Маленства прайшло сярод дзетак яўрэяў, палякаў, беларусаў, літоўцаў. Сённяшнія біёграфы паэта сведчаць, што з самага дзяцінства хлапчанё ўсе мовы ў свае душу і сэрца ўпусціла. А найболей – ідыш і літоўскую. Пасля ў жыцці хлапчаняці быў Омск. Далёкая ад Беларусі Сібір. Там – знаёмства з кіргізамі-вандроўнікамі. І таксама – засваенне новай мовы. Мо, перакананне, што ўсё гэта заўтра спатрэбіцца ў паэтычных вопытах, штурхала Абрама ў лінгвістычны акіян, пазбаўляла страху перад новымі моўнымі плынямі.

Калі хлапчаняці споўнілася 9 гадоў, Суцкеверы вярнуліся дадому. Праўда, без бацькі – ён памёр у Омску. Ды і вярнуліся ў Вільню. А мо, і лепей?.. Што тады, ў 1922 годзе, уяўляла Смаргонь?.. Недзе каля дзесяці тысяч жыхароў. Што цікава, паселішча тады – у 1920-1922 гадах – знаходзілася ў складзе Сярэдняй Літвы. У 1922 годзе Смаргонь перайшла ў склад Ашмянскага павета, была цэнтрам гміны.

Што да Сярэдняй Літвы, то, відаць, трэба нагадаць: была такая польская марыянетачная дзяржава ў 1920-1922 гадах... Энцыклапедыя гісторыі Беларусі сведчыць: "У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Польшчы ад 6.02.1922 Сярэдняя Літва перайменавана ў Віленскую зямлю на правах ваяводства"...

Патрапіўшы ў Вільню, Абрам апынуўся ў асяродку, знаёмым з дзяцінства. Тыя ж яўрэйскія і польскія сем'і. Юнак шмат увагі, шмат часу аддаваў самаадукацыі. Між іншым, тады, у 1920-я гады (прыблізна да 1927), у Вільні знаходзіўся другі смаргонец, другі, праўда, болей сталы, яўрэйскі паэт Майсей Кульбак. У 1920 годзе ў Вільні выйшла яго першая кніга – "Вершы". У 1922 годзе – "Новыя вершы" (у тым жа годзе кнігу перавыдалі ў Варшаве). У 1924 – адразу два раманы: "Месія сына Эфраіма" і "Панядзелак". Першы перавыдалі ў Берліне. Другі – у Варшаве. Мне давялося пагутарыць з патрыярхам яўрэйскай літаратуры Рыгорам Рэлесам. Вось што ён успамінае:

— У паэзіі Майсей Кульбак быў блізкі да сімвалістаў. У многім яго цікавіла і палітычная тэматыка. На падзеі кастрычніка ён адгукнуўся паэмай "Горад". Акрамя таго, на рэвалюцыйную тэму ён стварыў паэму "Бера і Беня ў дарозе". Але рэвалюцыйныя падзеі трактуюцца ў яго як стыхійная ўспышка, як паўстанне духу, якім ніхто не кіраваў. Зусім, словам, не па-марксісцку... Да нас, у Мінск, Кульбак прыехаў ужо ў такі час, калі РАППаўцы ўзмацнілі, напружынілі патрабаванні да пісьменнікаў, калі ўжо да ўлады над мастацтвам рвалася аглабельная крытыка. Патрабавалі такія "аглабельшчыкі" ідэйнай спеласці, марксісцкіх, ленінскіх падыходаў да рэчаіснасці...

Ці мог 14-15-гадовы Абрам сустракацца ў Вільні са сваім старэйшым земляком?.. Цяжка адказаць з пэўнай дакладнасцю на гэта пытанне. Але відавочна, творчы ўплыў Майсея Кульбака малады паэт адчуваў на сабе, на сваім літаратурным і жыццёвым мысленні. Працавалі ў тыя передваенныя гады ў Вільні і іншыя яўрэйскія літаратары. Некаторыя з іх (у прыватнасці, дзіцячы пісьменнік Бен-Сарын) у 1939 пераехалі ў Мінск. Суцкевер жа сустрэў вайну ў Літве, Вільні. І патрапіў у гета.

Піша вершы, распаўсюджвае іх на звычайных лістках паперы. Удзельнічае ў арганізацыі супраціўлення фашыстам. І ўсё ж трапляе ў чарговыя шэрагі абраных для расстрэлу. Разам з астатнімі над настаўленымі варожымі кулямётамі і аўтаматамі рые сабе і таварышам яму...

Лёс усё ж падараваў паэту жыццё. Кулі абмінулі яго. Патрапіўшы пад целамі таварышаў па няволі ў яму, поўную крыві, Абрам быў крыху і зямлёй прысыпаны. Ды вызваліўся. А пасля, уражаны, пасівелы, зноў прыйшоў у гета. Хаваўся ў яго сутарэннях, пісаў і далей вершы. Стварыў паэму "Таямнічы горад". Адзін з яго персанажаў – паэт, які і ў гета імкнецца даказаць, што ёсць, існуе ў свеце прыгажосць. І тым самым выратоўвае многія душы.

Пра Суцкевера дазналіся ў Маскве. Да віленскіх партызан прысылаюць самалёт. Народныя мсціўцы, вывеўшы Суцкевера з гета, дапамагаюць паэту выправіцца ў Маскву. Там Абрам прысутнічаў на пасяджэнні Яўрэйскага Антыфашысцкага камітэта (вядомая яго роля ў наладжванні міжнародных сувязяў у барацьбе з фашыстамі). Выступае. Расказвае пра барацьбу ў гета Варшавы і Вільні. У Суцкевера пытаюцца, што патрэбна людзям, каб выратавацца. Паэт адказвае:

— Рашэнне, зброя, салідарнасць. Калі вы гатовы дапамагчы гэтым, то, лічыце, мы яшчэ паспеем выратаваць многія жыцці...

Літаратар знаёміцца з Барысам Пастэрнакам, Ільёй Эрэнбургам. Пісьменнікі ўгаворваюць паэта застацца ў Маскве. Абяцаюць нават вылучыць на Сталінскую прэмію. Паэта гэта, відавочна, не кранула. Ён вяртаецца ў Вільню, у яе ваколіцы. А што да Сталінскай прэміі, то пасля даклада Фадзеева на пачатку 1943 года, калі аўтар "Разгрома" крытыкаваў Пастэрнака за апазіцыйнасць, Барыса Леанідавіча самога выкраслілі з кандыдатаў на высокую ўзнагароду.

...Сустрэўшы вызваленне Віленшчыны ў ліпені 1944 года, Суцкевер яшчэ некаторы час жыў і працаваў у СССР. Па-ранейшаму пісаў вершы. Прысутнічаў у якасці сведкі-абвінаваўцы на Нюрнбергскім працэсе. А з 1947 года колішні смаргонец – у Ізраілі. Будуе новую дзяржаву, працуе рэдактарам літаратурнага часопіса. Увесь яўрэйскі свет чытае яго, Абрама Суцкевера, пранізліва-балючыя вершы. А ў нас, у Беларусі, нават энцыклапедыі абмінаюць імя гэтага мужнага і самаахвярнага літаратара і грамадзяніна.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ІНТЭРВ'Ю

# У Смаргоні любяць футбол

**На пытанні "РГ" адказвае галоўны трэнер ФК "Смаргонь" Уладзімір Уткін.**

**— Дзякуючы чаму каманда прыбавіла ў гульні, паказаўшы выдатны вынік у другім крузе?**

— Была праведзена селекцыйная работа паміж кругамі. Напрыклад, склад папоўнілі Сінічын і Кухлей. Як казаў славуты спецыяліст Канстанцін Бескаў: "Трэба ўзяць футбалістаў і расставіць іх на полі".

Некаторым мы змянілі пазіцыі. Кухлей пачынаў на правым фланзе, але потым эфектыўна ўпісаўся ў гульню каманды ў ролі адцягнутага нападаючага. Тое ж самае Дзігілевіч. Спачатку пад нападаючымі не так упэўнена дзейнічаў, чым потым апорным паўабаронцам. Мы сталі выйграваць большасць верхавых мячоў, так што на другім паверсе праблем не мелі.



Уладзімір Уткін неаднойчы прыязджаў у Маладзечна, каб прыглядзецца да будучага саперніка. Фота Дзмітрыя КАРАЛЯ.

Прыйшлося вызваліцца ад Кашкара, Мазалоўскага, крыху раней – Іванова і Казлова. Яны не падышлі калектыву. Іх парушэнні дысцыпліны, прама кажучы, п'янкі, проста надакучылі.

**— Ахарактарызуйце вядучых гульцоў каманды.**

— Непакоіла варатарскае пытанне, бо грубыя памылкі прывялі да страты ачкоў недзе ў шасці матчах. Але з прыходам апошняга абаронцы Сінічына такая праблема амаль не ўзнікала. Уся абарона стала здарова гуляць. Асабліва на гэтым фоне вызначаўся Курак, які дзейнічаў справа. Да таго ж мы з ім дадаткова папрацавалі. Малайчына пярэдні абаронца Судзін. Трындзюк на левым фланзе не абышоўся без памылак, аднак ён яшчэ малады, разлічваю на яго ў наступным годзе.

Не атрымлівалася на гэтым краі належнага ўзаемадзеяння пры атакуючых дзеяннях, бо паўабаронца Кукалевіч часам стамляўся. Затое правафлангавая звязка Тарасаў-Курак была выдатнай. Вельмі якасна адпрацавала звязка ў цэнтры Дзігілевіч-Кухлей. Яны і атаку як след падтрымлівалі, і ў абароне адпрацоўвалі. Значна дапамог камандзе Карасёў, згуляў на сваім узроўні. У Грабаздзіна былі перапады: пачаў здарова, потым меў спад, канцоўку зноў правёў як трэба.

Хачу вызначыць Кітурку, які спачатку не ўпісаўся ў каманду, але потым дзейнічаў лепш. Ад Валавіка ў нападзенні я чакаў большага. Усё ж такі для асноўнага нападаючага 9 галоў за год – малавата. Пагэтаму для ўзмацнення гульні будзем шукаць новага нападаючага. Таксама мусім знайсці апорнага "хава", бо Дзігілевічу цяжкавата будзе. Ну, і варатар патрэбны, хаця я не адмаўляюся ад Шляхавога, не думаю, што ён лёгка аддасць сваё месца ў складзе.

**— Вы адпрацавалі ў Смаргоні ўжо паўтара года. Якія ўражанні, успаміны?**

— Былі праблемы на пачатку, скажам так, папярэднік уставіў "палкі в колеса". Я прааналізаваў сітуацыю. Убраў з каманды непатрэбных людзей. Гэта амаль увесь склад – недзе 15 чалавек. Прычым, звярніце ўвагу: ніхто з іх не перайшоў у добрыя каманды, многія нават у другой лізе цяпер не гуляюць. Не разумею, як можна было набраць гэткі склад пры той зацікаўленасці, якую ў Смаргоні мае да футбола раённае кіраўніцтва.

**— Давайце назавём апекуноў клуба.**

— Асноўны клопат аб камандзе кладзецца на плечы загадчыка аддзела ФКСіТ Мікалая Фаставa. Дырэктар СКЗ Міхаіл Чуковіч – наш ганаровы прэзідэнт, яму належыць вялікая роля ў станаўленні каманды, ён сапраўдны аматар футбола. Заўсёды адчуваецца падтрымка старшыні райвыканкама Станіслава Юргеля і загадчыка фінансавага аддзела Франца Свіло. Дзякуючы ім у Смаргоні ёсць моцная каманда, пастаянна паляпшаецца наша база – стадыён.

**— Ці пастаўлена задача на наступны чэмпіянат? Ці застанецца ранейшым фінансаванне?**

— Пачакаем 19 снежня, калі адбудзецца ўрачысты сход па выніках сезона. Ужо вядома, што потым каманду чакае месячны адпачынак, і недзе з 20 студзеня прыступім да трэніровак. Пакуль што я крыху займаюся селекцыяй, цікаўлюся магчымымі навічкамі.

Мы зможам змагацца за самыя высокія месцы, хаця, магчыма, потым выступаць у вышэйшай лізе будзе складана. Ды ўжо і ў гэтым сезоне былі блізкія да выхаду туды. Абедзве сустрэчы з віцябчанамі прайшлі ў роўнай барацьбе, аднак у выніку мы прайгравалі. Калі б наадварот – зраўняліся б па ачках.

Дарэчы, у гэтым сезоне старшыня райвыканкама ставіў задачу заняць прыкладна 5-6 месцы. Фастаў выказваў больш радыкальнае жаданне – 3 месца. Я футбалістам пра гэтыя ўстаноўкі не напамінаў. У нас быў спад у першым крузе: тры паражэнні запар ад "Лакаматыва", "Ведрыча-97", "Граніта". Нават не спад – псіхалагічны надлом. Тады звярнуўся да Чуковіча, папрасіў арганізаваць для каманды выезд на прыроду. Пагутарылі, адпачылі душою – і гульня нармалізавалася. Ну, а калі выйшлі ў табліцы на трэцяе месца, я пачаў хлопцаў "душыць", патрабаваў захаваць гэтую пазіцыю.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ЗБОРНАЯ

## Дзякуй за радасць!

**Маладзёжная зборная краіны (футбалісты 1981 г.н. і малодшыя) увайшла ў васьмёрку фіналістаў чэмпіянату Еўропы, які распачнецца напрыканцы мая наступнага года.**

Дарэчы, там будуць разыгрываццa тры пуцёўкі на Алімпійскія гульні ў Афіны, што адбудуцца ў жніўні. Каб дасягнуць такога поспеху, небывалага за ўсю гісторыю суверэннага футбола, давялося пераадолець апошні бар'ер: матчы плэй-оф (гэта значыць, "гульня на вылет") супраць польскіх равеснікаў. Дома 15 лістапада была нічыя 1:1, на выездзе 19-га – бліскучая перамога 4:0.

Алег Попель цалкам адыграў абедзве сустрэчы на звычайнай для сябе пазіцыі пярэдняга абаронцы. Прычым у гасцях ён настолькі граматна і ўпэўнена дзейнічаў у стваральным плане, што некаторыя спецыялісты вызначылі яго пазіцыю як апорнага паўабаронцы.

Павел Бяганскі правёў дома 80 хвілін, а ў далейшым не гуляў з-за мікратраўмы. Яму не надта ўдаваліся непасрэдныя пагрозы чужым варотам, затое ўмела трымаў сапернікаў у пастаяннай напрузе.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ КОНКУРС

## Круг замкнуў Артур Ліпскі

**Матчы, выстаўленыя на сёмы тур, завяршыліся наступным чынам. Беларусь – Польшча 1:1. Польшча – Беларусь 0:4. Расія – Уэльс 0:0. Уэльс – Расія 0:1. Іх вынікі сталі вельмі нечаканымі.**

Ніводны з 9 лістоў, дасланых удзельнікамі конкурсу, не ўтрымлівае хаця б аднаго правільнага ліку. У чатырох варыянтах зусім няма, а яшчэ ў чатырох – толькі па аднаму правільнаму выхаду. Артуру Ліпскаму з пасёлка Дружны Мядзельскага раёна ўдалося прадказаць два выхады. Ён становіцца пераможцам апошняга тура.

Узгадаем пераможцаў усіх тураў конкурсу. Гэта Дзяніс Ротміраў, Павел Сярпейка, Сяргей Ракоўскі (усе – Маладзечна), Мар'ян Вінгроўскі (Астравец), Руслан Ліпскі (пас. Дружны), Мар'ян Вінгроўскі – выйграў прыз!, Артур Ліпскі.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ ФУТБОЛ, ЮНАКІ

## Ад'язджаюць лепшыя

**МАЛАДЗЕЧНА. На першынстве Мінскай вобласці, што праводзіцца па чатырох узростах, мясцовая ДЮСШ (дырэктар Анатоль Езубчык), як і летась, стала мацнейшай.**

У сваіх групах першыя месцы занялі каманды 1989 г.н. (трэнеры Андрэй Найдзіч і Аляксандр Гармаза) і 1992 г.н. (Сяргей Карыцька), другія месцы ў хлопцаў 1990 г.н. (Аляксандр Гармаза) і 1991 г.н. (Яўген Цярэшчанка).

Можна адзначыць такіх гульцоў, як Павел Клінцэвіч (СШ№1) 1992 г.н., Мікіта Харко (СШ№1), Віктар Голуб (СШ№8), Раман Жарскі (СШ№2) і Прохар Новікаў (гімназія №3) 1991 г.н., Максім Буткевіч (гімназія №10), Антон Капцюх (гімназія №6) і Сяргей Космач (СШ№7) 1990 г.н., Сяргей Корсак (СШ№7) і Яўген Курловіч (СШ№11) 1989 г.н.

Выхаванцы Валерыя Вятрова 1987 г.н. у турніры па праграме ліцэнзавання клубаў вышэйшай лігі спыніліся на стадыі, дзе гуляла васьмёрка мацнейшых. Удзел у абласных адборачных спаборніцтвах "Крыштальнага мяча" прынёс ім другое месца і права ў наступным сезоне выступіць на рэспубліканскім узроўні.

Тым часам на запрашэнне сталічнага РІПА адгукнуліся лідэры каманды 1987 г.н. Станіслаў Баламут і Сяргей Лужынскі, а таксама Раман Вінцкоўскі, які 1988 г.н. РІПА расшыфроўваецца як рэспубліканскі інстытут прафесійнай адукацыі. Гэта звычайны каледж-тэхнікум, дзе трэба правучыцца 3-4 гады, каб набыць сярэднюю спецыяльную адукацыю. Прафесія, якую атрымліваюць навучэнцы, называецца "мэнэджэр па спорце". Хлопцам прадастаўляецца пражыванне, харчаванне, стыпендыя і нават экіпіроўка. У іх будзе насычаны каляндар сталічных спаборніцтваў. Яны будуць змагацца за прызавыя месцы ў турніры "Крыштальны мяч". Нарэшце, перад імі адкрываецца магчымасць выступаць за дублюючы склад каманды вышэйшай лігі МТЗ-РІПА.

Гэта важна самім хлопцам як будучым футбалістам, бо змогуць атрымаць высакаякасную цэнтралізаваную падрыхтоўку. Гэта прыемна для іх бацькоў, якія ведаюць, што дзеці не толькі "ганяюць" мяч, але і атрымліваюць адукацыю. Гэта надзейна для іх першых трэнераў з ДЮСШ, якія афіцыйна атрымаюць пэўны грашовы працэнт пры трансферы хлопцаў у іншы клуб. Гэта азначае, што ў горадзе Маладзечна няма спрыяльных умоваў для сваіх таленавітых спартсменаў.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

**Табло**

■ МІНІ-ФУТБОЛ, АБ'ЯВА

**МАЛАДЗЕЧНА. Аддзел ФКСіТ праводзіць турнір па міні-футболе пад дэвізам "За здаровы лад жыцця". Матчы будуць праходзіць на стадыёне ДЮСШ на адкрытым паветры на працягу снежня-лютага па выхадных.**

Заяўкі для ўдзелу прымаюцца ў аддзеле ФКСіТ (тэл. 7-77-64) і ДЮСШ (тэл. 3-42-76).

■ ШАХМАТЫ

**МАЛАДЗЕЧНА. Віталь Качаткоў прыняў удзел у спаборніцтвах першай лігі чэмпіянату краіны, якія праходзілі ў Мінску 13-22 лістапада.**

Было 90 чалавек, гулялі дзевяць тураў па швейцарскай сістэме. Каб трапіць у лік сямі лепшых, хто атрымлівае права выступіць у вышэйшай лізе, трэба было набраць 6,5 ачка.

Віталь пасля 4 тураў меў усяго 2 ачкі, потым выйграў тры партыі запар і зрабіў нічыю з саперніком, які носіць высокае званне міжнароднага майстра. У апошнім туры яго задавальняла б толькі перамога. На жаль, не атрымалася – паражэнне. У выніку набраў 5,5 ачка, падзяліўшы месцы ў другім дзясятку.

Месяц таму на чэмпіянаце вобласці Віталь падзяліў 2-3 месцы, набраўшы 5,5 ачка з 7 магчымых, а Сяргей Зыскін меў 50-працэнтны паказчык.

■ АМАТАРСКІ СПОРТ

**Занальныя абласныя спаборніцтвы сярод цэнтраў фізкультурна-аздараўленчай работы па месцы жыхарства прайшлі 21-23 лістапада ў Маладзечне. Прынялі ўдзел восем калектываў па пяці відах спорту.**

Гаспадары перамаглі ў жаночым і мужчынскім валейболе, міні-футболе, настольным тэнісе. Толькі ў аэробіцы занялі другое месца. З прадстаўнікоў рэгіёну таксама вызначыліся валейбалісты Мядзельшчыны (2 месца) і Валожыншчыны (3 месца), тэнісісты Маладзечанскага раёна (3 месца). "Раёншчыкі" выставілі два калектывы ў аэробіцы: даяўчаты з Беразінскага сталі трэцімі, а з Чысці – чацвёртымі. Лепшым выступленнем вылучаецца стала 2 месца ў жаночым разрадзе настольнага тэніса.

Сяргей ГАЙКОВІЧ.

■ АНОНС

**28-30 лістапада. Маладзечна. Фінальныя абласныя спаборніцтвы сярод цэнтраў фізкультурна-аздараўленчай работы па месцы жыхарства. Валейбол (мужчыны і жанчыны), міні-футбол, аэробіка, настольны тэніс.**

Будуць задзейнічаны спартыўныя пляцоўкі гандлёва-эканамічнага каледжа, завода металаканструкцый, школы №14.

**28-30 лістапада. Вілейка. Гімназія №2. Занальны турнір чэмпіянату вобласці па баскетболе сярод жанчын.**

Удзельнічаюць Вілейскі раён, Маладзечна, Маладзечанскі раён, Лагойскі раён, Мінскі раён. Дзве каманды выходзяць у фінальны турнір. Матчы ў пятніцу з 14-00, у суботу і нядзелю — з 10-00.

